№1(22)
2001г.
студзень

# ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

Грамадска - палітычная, асветніцкая газета

Выдаецца са жніўня 1996 г.

Кошт свабодны

**100**
*самых адметных людзей Барысаўшчыны 2000 года*
*Чытайце на старонцы 4*

## Калядкі ў Зачысці

13 студзеня на стары Новы год у вёсцы Зачысце пасля шматгадовага перапынку былі праведзены калядкі. Арганізавала іх па ўласнай ініцыятыве настаўніца тамтэйшай школы Камоска Наталля Віктараўна. Школьнікі ў спецыяльных касцюмах і нацыянальных строях са снапамі, пудзіламі казы, мядзведзя і інш. хадзілі па хатах, спявалі калядныя песні, танчылі. Да традыцыйных калядных пажаданняў дадаваліся і сучасныя: своечасова атрымліваць заробак, Беларусі - жыць багата і інш.

Жыхары Зачысця засталіся вельмі задаволены адраджэннем традыцыі, шчодра адорвалі тых, хто калядаваў. Дзе - нідзе на тварах немаладых людзей з'яўляліся слёзы. Але гэта былі слёзы шчасця. Відаць, у памяці яны вярталіся ў сваю маладосць, калі самі ладзілі калядкі. І гэта было адно з найбольш цікавых і вясёлых святаў.

*Служба інфармацыі "ГБ"*

## *Мы ўсюды першыя!*

*Чытайце на старонцы 5*

## Моладзевая рэдакцыя пры газеце "Гоман Барысаўшчыны"

*Якія тэлеканалы папулярныя ў Барысаве?* **3** стар.

*Маёнтак у Забашавічах* **5** стар.



*Выданы старыя фотаздымкі хрысціянскіх храмаў* **6** стар.





*Напярэдадні выставы* **6** стар.

*Футбольны клуб БАТЭ сёння* **7** стар.



*Прэзентацыя новага альбома гурта "Грошы"* **7** стар.

*Крыжаванкі* **8** стар.

### Юбілеі




Сёмага студзеня адно з буйнейшых тутэйшых прадпрыемстваў ВА "Экран" адзначыла свой 25-гадовы юбілей.

Гісторыя прадпрыемства пачалася 16 траўня 1974 года, калі міністрам авіяцыйнай прамысловасці СССР быў падпісаны загад "Аб утварэнні дырэкцыі Барысаўскага прыборабудаўнічага завода". Яго закладка адбылася 4 верасня 1976 года, а ўжо 7 студзеня 1976 года міністрам авіяцыйнай прамысловасці падпісваецца загад "Аб уводзе у лік дзеючых Барысаўскага прыборабудаўнічага завода". Гэта дата і лічыцца днём нараджэння прадпрыемства.

Прыборабудаўнічы завод шмат зрабіў для горада. Ім пабудаваны жылы мікраараён, 4 дзіцячых садкі, Палац культуры, ашчадная каса, харчовая крама, аптэка, паштовае аддзяленне.

У 1989 годзе прадпрыемства занялося самай высокатэхналагічнай галіной электронікі – мікраэлектронікай. Быў утвораны ўчастак вырабу інтэгральных мікрасхем. З 1990 года пачата распрацоўка і вытворчасць вадкакрысталічных індыкатараў.

У 1991 годзе ў сувязі з канверсіяй прадпрыемства пачало выпускаць вырабы аўтатрактарнай тэматыкі і тавараў народнага спажывання. Дарэчы, напярэдадні юбілею быў сабраны мільённы электрычны прас "Алеся".

12 студзеня 2001 года ў гарадскім Палацы культуры адбыўся ўрачысты вечар, які быў прысвечаны 25-годдзю ВА "Экран". На ім прысутнічаў намеснік міністра прамысловасці Беларусі, прадстаўнікі дзелавых партнёраў прадпрыемства, мэр нашага горада і іншыя асобы. Былі ўзнагароджаны супрацоўнікі прадпрыемства граматамі, медалямі і ардэнамі. Адным з самых лепшых падарункаў было пагадненне, якое было падпісана прэм'ер – міністрам Расіі М.Касьянавым "Аб утварэнні прамысловай групы аэракасмічнага абсталявання", у якую ўвойдзе ВА "Экран". Прыемнам было паведамленне аб атрыманні міжнароднага сертыфікату якасці ІСО – 9000 на ўсю прадукцыю завода.

Як і ў любы дзень нараджэння, не абышлося і без торта з 25 свечкамі, якія патухлі пад "калектыўным выдыхам". Працягнуў віншаванне калектыў "Беларускія песняры".

*М.Лазар*

* * *




10 студзеня 1991 года ў Барысаве пачала працаваць паліклініка №4. На момант свайго адкрыцця яна была самой сучасна абсталяванай у горадзе і прызначалася для абслугоўвання 30000 дарослага, 10500 дзіцячага насельніцтва і 7000 падлеткаў. На момант адкрыцця ў ёй былі басейн, кабінеты гразелячэння і водалячэння.

На сённяшні дзень паліклініка абслугоўвае 37780 дарослых, 8778 дзяцей і 9524 падлеткаў. За 10 год у калектыў прыйшло шмат новых супрацоўнікаў, палепшана яе матэрыяльная база, набыты апараты для ультрагукавога абследавання і шмат якая іншая тэхніка.

20 студзеня 2001 года ў паліклініцы адбыліся ўрачыстасці, якія былі прысвечаны яе 10-гадоваму юбілею.На ім прысутнічалі як барысаўцы, так і госці з Менска. Закончыўся вечер святочным канцэртам.

*М.Лазар*

## Іх будуць вучыць, як ратаваць нас

Атрымліваць адукацыю ў сферы барацьбы з наступствамі небяспечных падзей і з'яў, якія немагчыма прадказаць, збяруцца намеснікі кіраўнікоў частак і штабоў МНС (Міністэрства надзвычайных сітуацый). Пачынаючы з 15 студзеня на палігоне МНС ў Светлым Гаі, афіцэры будуць набываць веды па праграме "Правядзенне аварыйна – выратавальных работ". Падрыхтоўка, акрамя выпрацоўкі навыкаў і псіхалагічнай гатоўнасці да дзейнасці ў экстрэмальных сітуацыях, прадугледжвае і здачу фізічных нарматываў. Напрыклад, прахо-джанне паласы перашкод.

Праграма разлічана на два месяцы актыўнай падрыхтоўкі.

*Служба інфармацыі "ГБ"*

## Барысаўшчына багатая на культурныя падзеі

У лістападзе мінулага года ў Цэнтральнай бібліятэцы Барысаўскага раёна праходзіў тыдзень культуры "Пачынайце з кнігі". З усіх конкурсаў гэтай падзеі найбольш буйнымі былі два: "Конкурс сем`яў Барысаўскага раёна, якія чытаюць" і "Сустрэча маладых паэтаў Барысаўшчыны". Каб патрапіць на конкурс сямей, якія чытаюць у 47 бібліятэках, што ёсць у нашым раёне, праходзіў адбор, хто больш прачытаў кніг. У выніку выбралі тры сям'і

*(Заканчэнне на стар.2)*



### *Паважаныя чытачы!*

*Нагадваем, што на газету "Гоман Барысаўшчыны" можна падпісацца як з тэлевізійным дадаткам "Плюс TV", так і без яго.*
*Падпісны індэкс нашай газеты*

**64184**

***Кошт індывідуальнай падпіскі без тэлевізійнага дадатку:***
на **1** месяц - **90** руб., на **3** месяцы - **270** руб.
***Кошт індывідуальнай падпіскі з тэлевізійным дадаткам:***
на **1** месяц - **271** руб., на **3** месяцы - **813** руб.
***Кошт ведамаснай падпіскі без тэлевізійнага дадатку:***
на **1** месяц - **135** руб., на **3** месяцы - **405** руб.
***Кошт ведамаснай падпіскі з тэлевізійным дадаткам:***
на **1** месяц - **309** руб., на **3** месяцы - **927** руб.

# Ад нумара да нумара

__Юбілеі__

*19 студзеня спаўняецца год, як пажарныя атрымалі ў дадатак да свайго імя тэрмін выратавальнікі. За гэты час барысаўскія байцы выконвалі свой абавязак як "пажарныя" – 343 разы, а як "выратавальнікі" – 404. З чым іх і віншуем.*

* * *

*Школа №13 адгуляла свой 50-гадовы юбілей у вялікай зале ГПК. Віншаванні прымалі настаўнікі, вучні і выпускнікі.*

__Эканоміка__

*З першага студзеня барысаўскія прадпрымальнікі распачалі месячны страйк. Асноўнае патрабаванне з'яўляецца чыста эканамічным – адмяніць мытныя пошліны на тавары "трэціх краін", увезеных з Расіі.*

* * *

*Напрыканцы 2000 года ў раёне "сямі вятроў" гандлёвае прадпрыемства "Веста" адчыніла аднаменны універмаг. Асаблівасцямі гэтага вялікага магазіна (12000м.кв. гандлёвай плошчы) стане пераважнае самаабслугоўванне і магчымасць разлічвацца ў перспектыве з дапамогай пластыкавых картак.*

* * *

*Спецыялісты і механізатары саўгасаў "Гвардыя", "Траянаўка", калгаса "Маяк" звярнуліся праз газту "Адзінства" да калег з гаспадарак раёна. У звароце адзначана, што "вынікі сельскагаспадарчага года радуюць і абавязваюць да новых рубяжоў". Асноўным арыенцірам у XXI ст. названы "вопыт і поспехі перадавікоў". Настальгія?*

* * *

*Напярэдадні Новага года расійскае прадпрыемства "ГАЗ" разарвала кантракт з барысаўскім заводам "Аўтагідраузмацняльнік". Так як доля прадукцыі АГУ, пастаўляемай "ГАЗ", дасягала 70%, прадпрыемства апынулася ў вельмі цяжкім стане.*

* * *

*Сёлета ў навагодні вечар да адключэння вады, якое становіцца на гэта свята ўжо традыцыйным, у асобных раёнах горада былоададзена адключэнне святла. Якія сюрпрызы будуць чакаюць нас пры сустрэчы наступнага новага года?*

__Культура__

*У гарадской выставачнай залі ЦГБ адчынена выстава барысаўскіх мастакоў. Агульная тэматыка – зімовы пейзаж. Сярод больш вядомых мастакаў упершыню з'явіліся карціны твораў Валерыя Пчолкі.*

* * *

*Перад калядамі ў дзіцячай музычнай школе прайшоў выніковы канцэрт харавога аддзялення. Акрамя таго, дзіцячы хор "Чароўнасць" выканаў новыя творы.*

* * *

*Міжнароднае свята харэаграфічнай творчасці прайшло ў гарадскім Палацы культуры з 18 па 21 верасня.*

* * *

*Барысаўскі БПСМ ладзіў Калядную вечарыну для моладзі горада. У праграме значыліся дыскатэка, "салодкі" стол і конкурсы. Аналагічнае мерапрыемства , але ўжо для пенсіянераў правялі і супрацоўнікі гарадскога Палаца культуры.*

__Прэм'ера__

*Першым немаўля Барысава ў трэцім тысячагоддзі стаў Вадзім Валаховіч, які ўбачыў свет раніцай 1-га студзеня. Вага пры нараджэнні склала 2680 грам, рост – 55 сантыметраў.*

***Служба інфармацыі "ГБ"***



**Фота В.Спіранскага**

Неразбэшчаных у гэтым сезоне такімі праявамі сапраўднай зімы, як снег і мароз, прырода ўзнагародзіла барысаўцаў іншым сваім цудам.

Так, адразу пасля Каляд тэмпература ўзнялася трохі вышэй за нуль і пайшоў снег. Растаючы, ён наліпаў на самыя танюсенькія галінкі дрэў, светлафоры, людзей і карнізы дамоў. Будынкі зрабіліся падобнымі на домікі казачных гномаў, а звычайныя ліпы і вербы на белыя квітнеючыя яблыні.

Але ўся гэтая прыгажосць знікла недзе праз гадзіну – стала значна цяплей, і снег растаў.

***Служба інфармацыі "ГБ"***

# Лісты да Дзядулі Мароза

Напярэдадні Новага 2001 года на раённы вузел паштовай сувязі прыбыло каля двухсот лістоў з дзіўным адрасам – "да Дзядулі Мароза". У якасці канчатковай кропкі на іх часцей за ўсё значылася "Лапландыя" ці "Масква".

Спачатку ў чаканні свайго лёсу яны захоўваліся ў кабінеце кіраўніка РВПС. Размалёваныя, склееныя, па іх было бачна, што аўтары толькі навучыліся пісаць. Потым было выдадзена распараджэнне, па якому лісты "з нячоткім адрасам" павінны перапраўляцца па больш звыкламу адрасу – "Мінск – 50". Там канверты, у якіх захавана дзіцячая надзея і вера ў цуд, хутчэй за ўсё будуць знішчаны.

# Новая ілюмінацыя

"У новае тысячагоддзе – з новай ілюмінацыяй" – вырашыла кіраўніцтва гарсвятла і набыло ў Наваполацку новыя гірлянды і зорку для гарадской ёлкі.

Упрыгожванні змяніць трэба было даўно. Старыя мігалі ўжо на працягу дзесяці год, пры тэрміне службы ўдвая меншым.

У мінулым годзе гірлянды выходзілі са строю і затухалі так часта, што брыгада рамонтнікаў з гарсвятла вымушана была амаль круглыя суткі дзяжурыць каля затухаючага сімвала Новага года.

Колькі праслужаць гэтыя лямпачкі, залежыць ад барысаўцаў, На жаль, гірлянды зрываюць п'яныя грамадзяне. Лямпачкі, што вісяць на ёлцы не вельмі высока, крадуць. "Кожны дзень новыя ўкручваем," - кажа кіраўнік гарсвятла Алег Іванавіч Якімовіч.

***Служба інфармацыі "ГБ"***

# Тутэйшы музычны клуб

Напрыканцы кастрычніка ў Барысаве з'явіўся клуб аўтарскай песні, які ўзначаліла Наталля Галава.

У клубе сустракаюцца кожную нядзелю да пятнаццаці чалавек, сярод якіх ёсць сапраўдныя барысаўскія музычныя зоркі: гурты "7-ы канон", "ЛСД", выканаўцы Аляксандр Прадзед, Яўген Лешы. Нягледзячы на тое, што клуб існуе толькі ледзь больш за 2 месяцы, маладыя музыканты ўжо паспелі зрабіць акустычную вечарыну на пачатку снежня. Таксама клуб увесь час удзельнічае ў мерапрыемствах гарадскога Палаца культуры і літаратурна-музычнага аб'яднання "Каўчэг". Дарэчы, сама Наталля з'яўляецца старшынёй аддзялення творчага аб'яднання "Полацкая галіна" ў Барысаве, таму відавочна, што клуб мае вялікія перспектывы.

- Наталля, як Вы ставіцеся да таго, што ў вашага клуба ёсць вялікая канкурэнцыя ў асобе клуба аўтарскай песні Марыны Клімко?

- Мне гэта ўсё роўна. Мне проста прыемна сюды прыходзіць, таму што тут ёсць цікавыя людзі, з якімі можна сустракацца, рабіць канцэрты і гэтак далей. Я маю на ўвазе, што гэта дапамагае развівацца мне і, я спадзяюся, ім, а астатняе - не важна.

***С.Бегіян***

# Барысаўшчына багатая на культурныя падзеі

*(Заканчэнне, пачатак на стар.1)*

– Лясніцкіх (Ганцавічы), Гаранскіх (Навасёлкі Лошніцкага сельсавета), Марцінчык (Лошніца). Мерапрыемства праходзіла ў зале ПТВ № 202. Ішла гаворка аб ролі кнігі ў жыцці. Сем'і прадстаўлялі сябе. Былі праведзены ігравыя праграмы: "Казка па крузе" (адзін з канкурсантаў пачынае расказваць казку, а іншыя па кругавой чарзе працягваюць), "Чытаем класіку сёння", "Цуд добрых рук". Сям'я Лясніцкіх зрабіла птушынае гняздо з птушанятамі, Гаранскіх – птушку шчасця, Марцінчык – клоўна. Адна з частак конкурсу называлася "Заспяваем, сябры". Была таксама ігравая праграма "Сямейнае чытанне для сэрца і розуму" Былі сыграны сцэны з твора "Мальчыш – Кібальчыш", дзіцячых казак і іншых твораў. Напрыканцы конкурсу прайшла яшчэ адна ігравая праграма, дзе таты распавядалі нешта цікавае, дзеці зрабілі вырабы, а мамы выпеклі вырабы з мукі. Усе былі ўзнагароджаны кнігамі. Па выніках конкурсу 1-е месца заняла сям'я Гаранскіх, 2-е - Лясніцкіх, 3-е – Марцінчык.

***

"Сустрэча маладых паэтаў Барысаўшчыны" адбывалася ў літаратурнай гасцёўні раённай бібліятэкі. З маладых аўтараў на ёй прысутнічалі Эла Андрэйчык (Неманіца), Пётр Слесаронак (Навасёлкі), Наталля Шыла (Ніўкі). У конкурсе ўдзельнічаў і дуэт "ЛСД", які выконваў песні між выступамі паэтаў. Хочацца сказаць, што існуе банк дадзеных маладых паэтаў Барысаўшчыны, якія пачынаюць "Радкі натхнення", а да 21 сакавіка гэтага года, Сусветнага дня паэзіі, плануецца прэзентацыя другога зборніка маладых паэтаў Барысаўшчыны. Пад час канкурсу ішла размова і аб стварэнні на базе цэнтральнай бібліятэкі Барысаўскага раёна Цэнтра зносін з маладымі паэтамі.

***

А ў выставачнай залі цэнтральнай гарадской бібліятэкі з 20 па 24 снежня праводзілася Калядная мінералагічная выстава – кірмаш "Парад самацветаў", у якой удзельнічалі як прадстаўнікі ювелірных фірм, так і асобныя майстры з Беларусі (Менск, Магілёў), Расіі (Санкт – Пецярбург, Урал), Украіны (Харкаў, Жытомір, Крым). За 5 дзён працы выставы яе наведалі каля 5 тысяч барысаўцаў і гасцей горада, многія гледачы прыходзілі на выставу некалькі разоў. Выстава выявіла непадробную цікавасць публікі да гэтага віду дэкаратыўна – прыкладнога мастацтва, да калекцыйных мінералаў. На выставе можна было набыць вырабы з натуральных камянёў, бурштыну, жэмчугу і касці: упрыгожванні, талісманы, сувеніры, вазы, шкатулкі, гадзіннікі, падсвечнікі, карціны з каменю, мінералы для калекцыі і многае іншае. Выставачная зала цэнтральнай бібліятэкі Барысава пачынае паказ серыі выстаў, прысвечаных прыгажосці прыродных мінералаў, паўкаштоўных камянёў і вырабаў дэкаратыўна – прыкладнога мастацтва з гэтых прыродных мінералаў (выстава "Парад самацветаў" – першая ў гэтай серыі). Суарганізатарамі гэтых выстаў з'яўляюцца геаграфічны факультэт (аддзяленне мінералогіі Беларускага дзяржаўнага універсітэта (там захоўваецца самая буйная ў Беларусі калекцыя мінералаў, якая налічвае звыш 1000 адзінак захоўвання)) і стваряемая ў Беларусі Асацыяцыя ювеліраў і камнярэзаў. Плануемыя выставы будуць насіць як камерцыйны, так і асветніцкі характар. Разам з продажам унікальных вырабаў з натуральных камянёў, бурштыну, жэмчугу і косці мяркуецца правядзенне пазнавальных экскурсій і гутарак, прагляд відэафільмаў, набыццё энцыклапедычных выданняў, даведнікаў, навуковых брашур, папулярнай літаратуры, прысвечанай свету камянёў. Зараз супрацоўнікам выставачнай залы неабходна для забеспячэння перыядычных падобных выстаў замовіць спецыяльнае абсталяванне (вітрыны з унутраным асвятленнем, подзіумы і гэтак далей). Спадзяёмся, што гэта будзе адзінай перашкодай на шляху да сустрэчы з гэтым дзіўным мастацтвам.

***С.Іваннікаў***

# Прысядзем, сыграем, душу пацешым...

Вось ужо недзе каля трох гадоў на скрыжаванні вуліц Чапаева і Горкага ў маленькім скверыку на "тусоўку" збіраюцца з гітарамі падлеткі. Акрамя размоў пра музыку і жыццё там можна пачуць і саму музыку з рэпертуараў груп "Чайф", "Кіно", "ДДТ", "Мумій Троль", "Аліса" і іншых.

Галоўны на тусоўцы Сяргей Конеў (Конь), Аляксандр Тарасевіч (Іраказ). Яны лічаць сябе кіраўнікамі, але сцвярджаюць, што "проста з'яўляюцца тымі людзьмі, якія могуць павесці за сабой астатніх". Кожны вечар да іх прыходзіць каля 30 чалавек. "Конь" кажа, што раней прыходзіла значна больш. Прыходзяць панкі, гопнікі, рокеры, бывалі нават рэперы і сатаністы, але ні тыя, ні другія не прыжыліся, бо не мелі ніякіх стасункаў з гітарай.

Летнім часам музыку звычайна можна чуць да 9 – 10 гадзін вечара. Зімой да 20 дабываюць нямногія, ды і гітару на мароз не вынесеш, таму "тусоўшчыкі" абмяжоўваюцца толькі гамонкай.

На пытанне, як жа адносяцца бацькі да таго, што іх дзеці прападаюць на вуліцы так позна, "Конь" адказаў, што для большасці "тусоўшчыкаў" характэрны, мякка кажучы, прахалодныя адносіны з бацькамі.

- У большасці з нас – пераходны ўзрост, - тлумачыць свае словы "Конь", – а пераходны ўзрост – гэта я адзін, я сам сабе галава, бацькі мне не патрэбны, яны мяне не разумеюць. Проста гэта трэба перарасці.

Самай вялікай праблемай нашага часу "Конь" лічыць адсутнасць даверу ў людзей. Ён лічыць, што моладзі трэба ўзбагачаць адзін аднаго духоўна, быць дабрэйшай. Па яго словах, падлеткам трэба трымацца разам, знайсці кампанію, у якой ім добра, камфортна, але, пры ўсім тым, на ўсё мець сваю думку, меркаванне, погляд.

*С.Бегіян*

# "Таямніца Егіпецкіх пірамід" у заснежаным Барысаве

25 снежня на каталіцкія Каляды, адбыўся выпускны бал школы манекеншчыц.

Першая намінацыя, у якой маглі праявіць сябе прыгажуні, была "Мой летні стыль". Дзяўчаты паказалі вельмі арыгінальныя ансамблі, пачынаючы ад класічнай вопраткі і да шортаў, бейзболак, рукзакоў. Потым выпускніцы дэманстравалі вячэрні класічны стыль. Бясспрэчным фаварытам выпускнога балю стала намінацыя "Авангардны Новы год", дзе ўдзельніцы маглі даць волю сваёй фантазіі і паказаць сябе ва ўсіх найлепшых праявах. Таксама парадавалі гледачоў "юныя ледзі", якія закончылі аднайменную трохмесячную школу пад кіраўніцтвам Варонінай Алены Ягораўны. Яна навучала маленькіх дзяўчатак асновам дэфіле, сцэнічнай мове, этыкету і г.д.

Апошнім святочным акордам балю стала дэманстрацыя аўтарскай калекцыі Аляксандра Салырава, вучня ПТВ № 205, якая называецца "Таямніца Егіпецкіх пірамід", зробленая сумесна з вучнямі школы манекеншчыц.

*В.Ліс*

# Конкурсы для школьнікаў

Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь сумесна з Міністэрствам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Рэспублікі Беларусь і грамадскай арганізцыяй "Беларускі зялёны крыж" распрацавалі экалагічную акцыю "Дзень Зямлі. Беларусь. 2001", у рамках якой абвяшчаюцца наступныя конкурсы:

Рэспубліканскі конкурс малюнка і прыкладной творчасці сярод школьнікаў "Дні зямлі нашай";

Рэспубліканскі фотаконкурс сярод школьнікаў "Свята маёй зямлі";

Рэспубліканскі конкурс экажурналістыкі сярод школьнікаў "Свята тваёй душы";

Рэспубліканскі конкурс аўтараў і выканаўцаў песень і вершаў сярод школьнікаў "Сярэбраныя струны";

Рэспубліканскі конкурс школьнага экалагічнага праекта "І ад мяне залежыць, якім мой горад стане...";

Рэспубліканскі літаратурны конкурс сярод школьнікаў "Паркі і фальваркі роднага краю".

Конкурсныя працы дасылаць па адрасе: 220023, г.Мінск, вул, Макаёнка, 8, РЭЦВ, "Дзень Зямлі" да 10 лютага 2001 года. Кантактны тэлефон: /017/227-79-54.

# "Залатая іголка"

"Залатая іголка" – гэта назва аднага з прадпрыемстваў Барысава. Узнікла яно не сёння і нават не ўчора. А гісторыя яго стварэння ідзе ў далёкі 1945 год. І калі ты яшчэ не здагадаўся, то падкажу. Гэта не што іншае як вучэбна – вытворчае прадпрыемства глухіх.

У далёкім 1945 годзе была прынята пастанова аб адкрыцці ў г.Барысаве вучэбна – вытворчай швейна – абутковай майстэрні для людзей з парушэннямі слыху. Вайна скончылася, і такіх людзей на той час было нямала.

Самі рабочыя ўзнаўлялі невялікі будынак, працавалі сваім інструментам. На 25 снежня 1945 года працавала 25 чалавек. Інвалідаў дабавілася з сельскай мясцовасці.

У 1956 годзе быў збудаваны новы карпус па вуліцы Дзяржынскага. У 1971 і 1984 гадах былі праведзены дзве рэканструкцыі прадпрыемства. Вырасла колькасць працаўнікоў і аб'ём прадукцыі.

На сённяшні момант на прадпрыемстве працуе 133 чалавекі. Інвалідаў II і III груп 68 чалавек, што складае 68% ад агульнай колькасці. За 1999 год падрыхтавана 17 маладых спецыялістаў.

Цяпер тут шыюць ватныя коўдры, бялізну пасцельную, спецвопратку, іншае адзенне, вырабляюць картонныя скрынкі.

Аб'ём вытворчасці ў 1999 годзе за 11 месяцаў склаў 218 мільярдаў рублёў. За 10 месяцаў атрымана прыбытку 37 мільярдаў рублёў.

І ў гэтым годзе рабочыя атрымліваюць зарплату своечасова. Сярэдняя зарплата за кастрычнік склала 35 тысяч рублёў.

У прадпрыемства ёсць клуб, інтэрнат, сталоўка.

Ёсць людзі, якія адпрацавалі на адным месцы некалькі дзесяцігоддзяў. У гэтай установе іх шмат. А гэта сведчыць пра іх патрыятызм і адданасць.

Ёсць, безумоўна, цяжкасці, але яны звязаны з агульнымі эканамічнымі ўмовамі ў краіне. Вядома адно: прадпрыемства, дзе працуюць інваліды, павінна мець ад дзяржавы максімум увагі.

*М.Пучыла*

# Шанц на паўнацэннае жыццё

Што спорт і інваліды – паняцці мала сумяшчальныя, нашага чалавека прывучылі думаць з даўніх часоў. Але час не стаіць на месцы, а таму і мы ўжо паспелі зразумець, што людзі, па волі лёсу абмежаваныя ў нармальных магчымасцях да руху, актыўнасці ў агульнапрынятым сэнсе, павінны і могуць весці паўнакроўнае жыццё і маюць права радавацца гэтаму самаму жыццю.

Абласны спартыўны клуб "Гефест", які базіруецца ў Барысаве, якраз і ажыццяўляе важнейшую функцыю прыцягнення інвалідаў да актыўных заняткаў спортам, а таксама перараентацыі грамадскага меркавання на зацікаўленае ўспрыняцце праблем, звязаных з інваліднасцю.

Старшыня клуба Андрэй Віктаравіч Баранчук, штодзённа вырашаючы шматлікія праблемы, усё ж настроены аптымістычна. Бо хоць і не ездзілі прадстаўнікі клуба на паралімпіяду ў Сіднэй, але ўклад у развіццё інваліднага спорту зроблены і робіцца значны.

Асабліва папулярным і выніковым стала для барысаўскіх удзельнікаў клуба плаванне. Па гэтым відзе падрыхтаваны тры майстры спорту. Гэта Дзяніс Скляр, Аляксандр Ласкі і Кацярына Грэковіч. Аднак, каб развіваць у нармальным рэжыме дасягнутыя поспехі, сродкаў у клуба ўсё ж няма. Напрыклад, каб удзельнічаць у спаборніцтвах міжнароднага ўзроўню, спартсменам давялося мінулым летам у Чэхію і Германію дабірацца на ўласным старэнькім аўтамабілі.

На рэспубліканскай спартакіядзе ў Брэсце ў мінулым годзе гефестаўцы занялі другое агульнакаманднае месца. Трэцяе месца прадстаўнікі клуба заваявалі ў спаборніцтвах па цяжкай атлетыцы. Прадмет асаблівага гонару – адносна новы від спорту, які культывуецца ў клубе каля трох год. Гэта більярд, якому клуб абавязаны сапраўдным трыумфам: у рэспубліканскіх спаборніцтвах мінулага года занята першае месца. Бясспрэчна, талент і ўпартасць спартсменаў, выдатная работа трэнераў забяспечылі поспех. Але пачатак усяму гэтаму паклаў усё ж поспех у матэрыяльнай сферы, які абярнуўся набыццём для клуба добрага більярднага абсталявання, а ўжо жадаючыя сур'ёзна займацца гэтым цікавейшым відам спорту не ўпусцілі свой шанц.

Не сакрэт, што матэрыяльны бок дзейнасці клуба пастаянна знаходзіцца ў крытычным стане. Абласны спартыўны клуб функцыяніруе ў асноўным на мясцовыя барысаўскія сродкі, якіх, як вядома, у бюджэце вялікі дэфіцыт. Дапамагае, праўда, чым можа, абласны спартыўны камітэт, але каб плаціць больш – менш нармальную заробтную плату трэнерам, гэтага недастаткова. Так што і задача практычнай дзейнасці, і блакітная мара кіраўніцтва клуба ды і ўсіх яго членаў на сённяшні дзень супадаюць – гэта аплаціць на належным узроўні трэнерскую працу і прыцягнуць да работы са спартсменамі – інвалідамі дастатковую колькасць высокакваліфікаваных і зацікаўленых спецыялістаў.

Тыя, што прыйшлі аднойчы ў клуб і адчулі жыватворную, пераўтваральную сілу пачуцця ўпэўненасці ў сабе і палёту вызваленай ад пакутаў душы, не пойдуць адтуль ніколі і ні пры якіх самых сур'ёзных ускладненнях матэрыяльнага парадку. Але каб нармальна дзейнічаць і ў далейшым, клуб павінен прыцягваць новыя сілы маладых спартсменаў. Вось для гэтага якраз і патрэбны немалыя сродкі, каб абсталяваць залу неабходнымі трэнажорамі, закупіць добрае абсталяванне і стварыць умовы для заняткаў самымі рознымі відамі спорту. Патрэбна ж улічваць і тое, што для развіцця інваліднага спорту перш за ўсё неабходна знайсці важкія доказы і пераканаць маці, якія маюць дзяцей – інвалідаў, у тым, што іх сын ці дачка з прыходам у клуб здабудуць рэальны шанц на паўнацэннае жыццё. Пакуль не заўсёды ўдаецца гэта зрабіць па многіх прычынах, сярод якіх найважнейшай з'яўляецца мізэрнае матэрыяльнае забеспячэнне інваліднага спорту.

*А.Турко*

# Экран замест душы

Сваеасаблівым "рэкордам" з'яўляецца тэрмін прагляду ў будні - да 9 гадзін, а "ў выхадныя - да 12-і гадзін. Цяжка зразумець, як дарослы чалавек можа вытрымаць каля 8 мастацкіх фільмаў адразу ці такую ж колькасць перадач. А як уявіць сабе, што ўвесь гэты час побач з гэтым дарослым сядзіць дзіця і глядзіць разам з ім "Вяртанне Бэтмана" ці "Смяротную бойку", або кліп, напрыклад, гурта "Cannibal Corpse" ("Труп канібала"). У адной з песень у іх рэпертуары ў дробязях распавядаецца аб згвалтаванні жанчыны, да горла якой прыстаўлены нож.

- Я лічу, што патрэбна абмяжоўваць прыём тэлеінфармацыі, - гаворыць псіхолаг Н.С. Яраш. - Калі дзіця глядзіць тэлевізар, яно цалкам не разумее, што свет на тэлеэкране амаль поўнасцю выдуманы і яскравыя падзеі не з'яўляюцца сапраўднымі. Таму, калі на іх вачах дарослыя дзядзькі забіваюць адзін аднаго, згвалтоўваюць жанчын, здзекуюцца над падлеткамі, мацюгаюцца, дзеці ўспрымаюць гэта як пэўныя натуральныя рэчы. А потым, калі дзіця сустракаецца з рэальным светам і бачыць, што ён адпавядае тэлевізійнаму, то спрабуе зрабіць яго больш падобным на нейкі фантастычны фільм і прыкладвае дзеля гэтага ўсе свае намаганні. Гэтак праходзіць замбіраванне людзей.

Прыблізна дваццаць пяць гадоў таму ў Амерыцы ў маленькіх дзяцей, якія звыкліся пастаянна глядзець тэлевізар, былі заўважаны сур'ёзныя змяненні ў структуры інтэлекту, адставанне ў развіцці мовы, беднасць фантазіі, дрэнная камунікабельнасць, прымітыўнасць мыслення, малая гульнявая актыўнасць; нават з'явіўся тэрмін у медыцыне - "тэлеідыёт".

Не сакрэт для ўсіх, што тэлевізар, гэта не толькі сродак вытворчасці, але і асноўны СМІ, які вызваляе нас ад неабходнасці чытаць, хадзіць у тэатр, хадзіць нават у госці. Навошта нам хадзіць у госці, калі мы зносімся са ўсім светам? Сёння да нас прыйдзе Алэн Дэлон, заўтра - Дэмі Мур... Тым болей, што Дэмі можа прыйсці і не адзетая. У Біблii напісана: "Не многіх пускай у сваю хату". А да нас запраста прыходзяць злыдні, шаманы, забойцы і вампіры - істоты, з якімі не хочацца мець нічога агульнага.

- Акрамя таго, што тэлебачанне - гэта СМІ, гэта яшчэ і сродак рэалізацыі сябе, - гаворыць Н.А.Галава, рэдактар маладзёжных праграм тэлекампаніі "СКІФ". - Але, мне здаецца, што тэлебачанне прыносіць чалавецтву больш шкоды, чым карысці. Я магу параўнаць тэлебачанне з ежай хуткага прыгатавання, гэта такі ж сінтэтычны кансервант, паўфабрыкат, які вельмі хутка і лёгка ўсмоктваецца ў мозг, але ніякай карысці не прыносіць. Усё вышэйпералічанае не сведчыць аб тым, што трэба наогул адмаўляцца ад тэлевізара. Гэты артыкул - толькі яшчэ адна магчымасць паразважаць аб тым, што патрэбна глядзець нам, а што - не. І як больш карысна праводзіць свой час.

*С.Бегіян*

Колькі часу вы траціце ў дзень на тэлевізар у будні




Колькі часу вы траціце ў дзень на тэлевізар у выхадныя




Які ваш любімы тэлеканал




*Наша газета правяла сацыялагічнае апытанне сярод жыхароў Барысава, пад час якога высвятлялася, колькі часу аддаюць яны прагляду тэлевізара і якія тэлеканалы карыстаюцца найбольшым поспехам.*

# 100 самых адметных барысаўцаў 2000 года

*Хто яны, самыя адметныя людзі Барысаўшчыны? Каб адказаць на гэта пытанне, рэдакцыя нашага выдання прааналізавала ўсе леташнія нумары тутэйшых газет "Адзінства", "Барысаўскія навіны", "Томан Барысаўшчыны", "Курьер из Борисова" і "Новая барысаўская газета". З кожнай з іх былі выбраны прозвішчы ўсіх тутэйшых жыхароў. Падлічвалася колькасць узгадванняў кожнай асобы. На падставе атрыманых звестак быў складзены спіс найбольш адметных барысаўцаў.*

*Усяго на працягу мінулага года ў тутэйшых газетах узгадвалася каля дзевяцісот тутэйшых жыхароў. Спіс ста з іх, якія пакінулі найбольшы след у тутэйшым жыцці, прапануецца нашым чытачам. Самы адметны барысавец 2000 года – Віталь Кутузаў летась узгадваўся ў тутэйшых газетах 148 разоў. Гэта больш чым на 50 разоў болей, чым чалавек, які заняў другое месца. Таму, безумоўна, В.Кутузава можна лічыць чалавекам года Барысаўшчыны.*

## Віталь Кутузаў - чалавек года Барысаўшчыны



1. **Віталь Кутузаў** – нападаючы, капітан каманды футбольнага клуба БАТЭ. Нарадзіўся 20 сакавіка ў Пінску. У складзе БАТЭ гуляе з 1998 года. Да таго выступаў за каманды "РВАР" (Менск) і юніёрскую зборную U-18. У першынстве Беларусі ў складзе барысаўскай каманды правёў 84 гульні. За гэты час забіў 42 галы і зрабіў 24 галявыя перадачы. З'яўляецца капітанам моладзевай зборнай Беларусі;



2. **Вадзім Скрыпчанка** - паўабаронца футбольнага клуба БАТЭ, былы капітан каманды. Нарадзіўся 26 лістапада 1975 года ў Маларыце. За барысаўскую каманду выступае з 1998 года па сакавік 2000 года. У першынстве Беларусі сыграў 168 гульняў, забіў 25 галоў. Уваходзіць у нацыянальную зборную Беларусі. У сакавіку 2000 года перайшоў у ЦСКА (Масква). У ліпені таго самага года ўзяты БАТЭ ў арэнду да канца сезона. Зараз перайшоў у каманду "Уралан" (Эліста, Расія);



3. **Васілій Бургун** – Старшыня Барысаўскага гарвыканкама. Нарадзіўся ў 1955 годзе ў Навагрудку. Адукацыя вышэйшая. Працаваў начальнікам упраўлення ў Менскім аблвыканкаме. Закончыў Акадэмію кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь. У Барысаве з траўня 1997 года.



4. **Леанід Лагун** - нападаючы футбольнага клуба БАТЭ. Нарадзіўся 22 чэрвеня 1978 года. За барысаўскую каманду выступае з 1997 года. Раней іграў у камандзе "Зорка" (Менск). У складзе БАТЭ ў першынстве Беларусі правёў 48 гульняў, у якіх забіў 14 галоў;



5. **Юрый Пунтус** – галоўны трэнер футбольнага клуба БАТЭ. Нарадзіўся 8 кастрычніка 1960 года. Выступаў за менскі клуб "Спадарожнік". Пасля таго працаваў трэнерам у шэрагу менскіх і расійскіх клубаў. Галоўным трэнерам БАТЭ з'яўляецца з красавіка 1996 года. Са снежня 1999 года адначасова з'яўляецца галоўным трэнерам моладзевай (U-21) зборнай Беларусі;



6. **Леў Марголін** – генеральны дырэктар шматгаліновага вытворчага прадпрыемства "Панацэя". Нарадзіўся ў 1952 годзе. Скончыў інстытут замежных моў, мае эканамічную адукацыю. Больш за дзесяць год займаецца прадпрымальніцтвам. З'яўляецца адным з утваральнікаў недзяржаўнага прадпрыемства "Панацэя";



7. **Аляксандр Лісоўскі** - паўабаронца футбольнага клуба БАТЭ. Нарадзіўся 29 красавіка 1975 года ў Менску. Іграў у камандах "Атака" (Менск) і "Маладзечна". За БАТЭ выступае з красавіка 1998 года. У першынстве Беларусі правёў 126 гульняў. Забіў 26 галоў, зрабіў 35 галявых перадач. Выступаў за моладзевую (U-21) і нацыянальную зборныя Беларусі;



8. **Аляксандр Абрамовіч** – журналіст газеты "Барысаўскія навіны", праваабаронца. Карэнны барысавец. "Нефармальнай" палітыкай актыўна займаецца больш за дзесяць год. Вядомы найперш сваімі публічнымі грамадскімі ўчынкамі, за якія не раз цярпеў. Лаўрэат трэцяй нацыянальнай прэміі ў галіне абароны правоў чалавека, якія прысуджае аргкамітэт Хартыі'97. Сябра Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная грамада";



9. **Генадзь Шчарбінін** – прадстаўнік расійскага вытворчага аб'яднання "Аграімпэкс". Нарадзіўся ў 1962 годзе. Па адукацыі – гісторык. Грамадскай дзейнасцю актыўна займаецца каля дзесяці год. З'яўляўся дэпутатам Барысаўскага гарадскога савета;



10. **Яўген Сівец** – старшыня Барысаўскага райвыканкама. Нарадзіўся 25 сакавіка 1943 года ў Вілейскім раёне. У Горацкай сельгасакадэміі атрымаў спецыяльнасць агранома. Доўгі час працаваў на Капыльшчыне. З верасня 1999 года на Барысаўшчыне;

11. **А.Федаровіч** – брамнік футбольнага клуба БАТЭ;
12. **Ю.Жэўноў** – другі брамнік футбольнага клуба БАТЭ;
13. **В.Капульцэвіч** – намеснік генеральнага дырэктара акцыянернага таварыства БАТЭ;
14. **В.Ілюшонак** – дырэктар таварыства "Жыллё";
15. **А.Кароль** – абаронца футбольнага клуба БАТЭ;
16. **А.Лапошыч** – урач гарадской бальніцы, паэтэса;
17. **Я.Лашанкоў** – паўабаронца футбольнага клуба БАТЭ;
18. **А.Бага** – абаронца футбольнага клуба БАТЭ;
19. **З.Лямкіна** – урач;
20. **У.Раготкін** – паўабаронца футбольнага клуба БАТЭ;
21. **І.Бакун** – абаронца футбольнага клуба "Гайна";
22. **У.Рубцоў** – хірург гарадской бальніцы;
23. **С.Свядыш** – нападаючы футбольнага клуба "Гайна";
24. **С.Кузняцоў** – паўабаронца футбольнага клуба БАТЭ;
25. **У.Нявінскі** – паўабаронца футбольнага клуба БАТЭ;
26. **А.Чыгорын** – старшыня арганізацыі "Беларускага саюза ветэранаў вайны ў Афганістане";
27. **А.Ясюк** – актывістка тутэйшай філіі БСДП;
28. **У.Буйко** – рэжысёр барысаўскага народнага тэатра "Відарыс";
29. **А.Глеб** – нападаючы футбольнага клуба БАТЭ (зараз выступае за "Штутгарт");
30. **У.Еўстаф'еў** – начальнік барысаўскага ГАУС;
31. **Э.Сіняк** – галоўны ўрач Барысаўскага раённага тэрытарыяльнага медыцынскага аб'яднання;
32. **А.Бойка** – загадчык барысаўскага гарадскога аддзела адукацыі;
33. **У.Грыгароў** – былы нападаючы футбольнага клуба БАТЭ;
34. **Р.Кіберман** – намеснік генеральнага дырэктара акцыянернага таварыства БАТЭ;
35. **У.Кушнер** – палкоўнік, супрацоўнік барысаўскага ГАУС;
36. **У.Рэут** – генеральны дырэктар аб'яднання "Каскад";
37. **Д.Слынько (Дзяніс ФА)** – паэт і кампазітар, трагічна загінуў;
38. **А.Капскі** – генеральны дырэктар "Сталкер", прэзідэнт футбольнага клуба БАТЭ;
39. **Ксёндз Юзэф** – пробашч барысаўскага касцёла;
40. **А.Букас** – галоўны рэдактар газеты "Барысаўскія навіны";
41. **У.Скварчэўскі** – дырэктар стадыёна, ігрок футбольнага клуба "Гайна";
42. **Ю.Маслянкоў** – кіроўца аўтобуса;
43. **У.Басацкі** – намеснік аддзялення гнойнай хірургіі;
44. **Ф.Кералідзі** – нападаючы футбольнага клуба "Гайна";
45. **М.Талецкі** – гоншчык – картэнгіст;
46. **Ю.Талецкі** – гоншчык – картэнгіст;
47. **С.Яшчанка** – намеснік дырэктара ВА ЖКГ;
48. **С. Валенціновіч** – кандыдат у дэпутаты палаты прадстаўнікоў;
49. **В.Гумінскі** – палкоўнік, кандыдат у дэпутаты палаты прадстаўнікоў;
50. **А.Ермаковіч** – паўабаронца футбольнага клуба БАТЭ;
51. **Г.Каўрыга** – кандыдат у дэпутаты палаты прадстаўнікоў;
52. **А.Круглік** – ігрок футбольнага клуба "Гайна";
53. **А.Кулінковіч** – былы ганаровы жыхар Барысава;
54. **Ю.Маслянкоў** – кіроўца АП № 3;
55. **М.Фаміч** – фермер з вёскі Кімія;
56. **Бацюшка Аляксандр** – праваслаўны святар;
57. **У.Буднік** – ігрок футбольнага клуба "Гайна";
58. **А.Ешчанка** – намеснік галоўнага рэдактара "Новай барысаўскай газеты";
59. **Д.Катакін** – прапаведнік;
60. **І.Леднік** – праваабаронца, старшыня прафсаюза прадпрымальнікаў;
61. **Л.Максімаў** – тэхнічны дырэктар ДАКа;
62. **Г.Мардок** – ігрок футбольнага клуба БАТЭ;
63. **У.Пашкевіч** – трэнер па каратэ – до;
64. **Ю.Піткевіч** – магістар рыцарскага клуба;
65. **Ю.Усік** – кандыдат у дэпутаты палаты прадстаўнікоў;
66. **А.Ганчарык** – ігрок футбольнага клуба БАТЭ;
67. **А.Дзівакоў** – ігрок футбольнага клуба БАТЭ;
68. **І.Жэлязноў** – вакаліст гурта "Грошы";
69. **Л.Мураўёва** – дырэктар Барысаўбытсервіс;
70. **А.Нікіцін** – начальнік гарнізона, камандзір 65-га армейскага корпуса;
71. **А.Цялежікаў** – актывіст маладога фронту;
72. **Харытонава** – ветэран працы;
73. **А.Янушэўская** – настаўніца політэхнічнага ліцэя;
74. **А.Яшчанка** – студэнт БДУ, вакаліст гурта N-N.Street;
75. **Л.Клімковіч** – майстар года;
76. **К.Клімчык** – начальнік Барысаўскага РАУС;
77. **М.Сяргееў** – дырэктар АТ Барысаўдрэў;
78. **П.Галадок** – маёр міліцыі;
79. **А.Гірына** – настаўніца гімназіі № 2;
80. **Т.Каляда** – настаўнік біялогіі СШ № 23;
81. **С.Літвінчык** – начальнік УК ГБ;
82. **Д.Міхневіч** – удзельнік гурта "Нестандартны варыянт";
83. **У.Панасюк** – ігрок футбольнага клуба БАТЭ;
84. **Г.Парамонава** – настаўніца СШ № 18;
85. **С.Сытаў** – ігрок футбольнага клуба "Гайна";
86. **У.Ягораў** – ардынатар гнойнай хірургіі;
87. **Я.Буйко** – артыстка барысаўскага народнага тэатра "Відарыс";
88. **А.Лампартар** – ігрок футбольнага клуба "Гайна";
89. **З.Сыраватка** – хірург;
90. **А.Баранаў** – былы ігрок футбольнага клуба БАТЭ;
91. **С.Гарбачоў** – ударнік гурта "Грошы";
92. **У.Дарашкевіч** – ігрок футбольнага клуба БАТЭ;
93. **С.Салаш** – заснавальнік гурта "Offside";
94. **А.Трацяк** – намеснік дырэктара па ўкараненню перспектыўных тэхналогій на крыштальным заводзе;
95. **В.Шарова** – дырэктар магазіна "Электратавары";
96. **П.Васькоўскі** – дырэктар гімназіі № 2;
97. **В.Дзёмін** – ігрок футбольнага клуба БАТЭ;
98. **Д.Жучкоў** – барабаншчык гурта "Разгром", студэнт БДПК;
99. **П.Кульша (Агурок)** – удзельнік гурта "Гукі шчасця";
100. **Д.Корнеў** – спартсмен, чэмпіён свету сярод юніёраў па каратэ-до.



Адзін з былых гаспадарчых будынкаў. Сцены яшчэ ў добрым стане, столь і дах патрабуюць рамонту. Зараз яго аднавіць яшчэ не позна. Але ці не спознімся мы і ці не паўторыць забашавіцкі маёнтак лёс шматлікіх іншых тутэйшых маёнткаў.





Няўжо мы і наша гістарычная спадчына настолькі багатыя, каб абыякава назіраць за знішчэннем рэштак забашавіцкага маёнтка.

# Маёнтак у Забашавічах

На Барысаўшчыне было нямала маёнткаў, якія заслугоўваюць увагі да сябе, да сваёй гісторыі. Адзін з такіх маёнткаў знаходзіўся ў Забашавічах.

Размяшчаўся маёнтак на ўскрайку вёскі, каля невялічкай рэчкі. На пачатку XX стагоддзя тут быў багаты двухпавярховы панскі палац, які быў пабудаваны з цэглы. Каля яго быў шэраг гаспадарчых пабудоў. Маёнтак меў адметны парк з сажалкай. Па ёй плаваў невялікі карабель. Кажуць, што пан любіў сваеасабліва жартаваць. Набіраў на карабель хлопцаў, адплываў ад берага. Пасля таго пугай прымушаў іх скакаць у ваду. Потым кляўся, што гэта болей не паўторыцца і зноў набіраў хлопцаў на карабель. І ўсё паўтаралася зноў…

Падчас трагічных падзеяў канца першага дзесяцігоддзя XX стагоддзя тут некалькі разоў змянялася ўлада. Калі сюды прыйшлі "чырвоныя", людзі кінуліся рабаваць палац. Аднак хтосьці тым часам патаемна запісваў, хто што сцягнуў. Таму, калі ўлада змянілася і пан вярнуўся, амаль уся маёмасць была вернута, а рабаўнікі былі збіты. Пра тыя часы яшчэ і зараз тамтэйшыя жыхары расказваюць амаль анекдатычныя гісторыі.

Пазней – у савецкія часы – у будынку палаца размяшчалася школа. У 1936 годзе парк маёнтка быў узяты пад ахову дзяржавы.

Вялікія страты былі нанесены забашавіцкаму маёнтку падчас апошняй вайны. Тады партызанамі быў узарваны палац, знішчаны парк. Рэшткі палаца пасля вайны былі разабраны тамтэйшымі жыхарамі на цэглу.

Да сённяшняга часу ад маёнтка захаваліся толькі два яго цагляных гаспадарчых будынкі, абрысы былой сажалкі і некалькі старых дрэў.

*М.Мацельскі*



# Журналісцкая тусоўка

*Амаль год у Барысаве існуе маладзёжны журналісцкі клуб. Фактычна ён з'яўляецца элітнай маладзёжнай тусоўкай. Сябры клуба падтрымліваюць сувязі з артыстамі, славутымі спартсменамі, палітыкамі і, зразумела, журналістамі. Кожнае паседжанне – як добры перфоманс. У клубе маюцца свае "фішкі" і традыцыі.*



Зразумела, асноўная дзейнасць клуба скіравана на журналістыку. Журналістыка, як лічаць многія , вельмі цікавая рэч. Маладыя журналісты заўсёды ў курсе гарадской "свецкай хронікі". Найбольш "прасунутыя" сябры клуба супрацоўнічаюць амаль з усімі газетамі нашага горада. Намаганнямі маладых журналістаў ствараліся цэлыя тэматычныя старонкі аб маладзёжным жыцці горада.

Заняткі ў клубе праводзяць журналісты мясцовых газет. Справа пастаўлена так, што навучанне ператвараецца ў гульню. Амаль няма адрозненняў паміж "настаўнікамі" і "вучнямі". Усе веды аб журналістыцы засвойваюцца з дапамогай так званых інтэрактыўных метадаў. Праца ў малых групах дазваляе набыць досвед у вырашэнні любых праблем і вучыцца самастойна прымаць рашэнні.

Усе атрыманыя веды адразу замацоўваюцца на практыцы. Навіны, інтэрв'ю, аналітыка, апытанні - матэрыялы ў гэтых жанрах у выкананні сябраў клуба рэгулярна з'яўляюцца на старонках барысаўскіх газет.

Ідэя стварыць журналісцкі клуб належыць Барысаўскаму жаночаму аб'яднанню "Правінцыя" і моладзеваму аб'яднанню "Новая Касталія". Год таму кіраўнікі гэтых грамадскіх арганізацый палічылі, што моладзь Барысава і Жодзіна, як і іншых правінцыйных гарадоў, знаходзіцца ў інфармацыйным вакууме, "адчувае незапатрабаванасць, не мае магчымасці рэалізаваць свае здольнасці і сацыяльную актыўнасць".

З другога боку, мясцовыя незалежныя выданні зазнаюць кадравую праблему і зацікаўлены ў супрацоўніцтве з актыўнымі маладымі людзьмі, якія здольны рэальна ацэньваць падзеі, аналізаваць іх, працаваць з актуальнымі праблемамі моладзі і грамадства і рыхтаваць разнастайныя матэрыялы для прэсы. Так з'явіўся клуб.

Сёння на базе клуба пры газеце "Гоман Барысаўшчыны" створана самастойная рэдакцыя, якая будзе рыхтаваць цікавыя і актуальныя для моладзі матэрыялы. Ужо зараз артыкулы сябраў рэдакцыі з'яўляюцца неад'емнай часткай любога нумара "ГБ". Звярніце ўвагу на прозвішчы пад матэрыяламі аб моладзі – Сяргей Бегіян, Вольга Ліс, ЛінаКівісцікава, Аляксандр Шумскі, Андрэй Максіменка.

Сяргей Бегіян. Працуе ў жанры інтэрв'ю і паведамлення. Асвятляе падзеі культуры, мастацтва. Найбольш удалымі можна лічыць яго аналітычныя артыкулы.

Вольга Ліс. Лідэр моладзевай рэдакцыі. Працуе амаль ва ўсіх жанрах, мае вельмі разнастайныя інтарэсы.

Андрэй Максіменка. Спецыялізуецца на правядзенні апытанняў. Друкуе матэрыялы аб разнастайных маладзежных тусоўках і аб'яднаннях.

Аляксандр Шумскі, творчы псеўданім – Shurix. Асноўнае захапленне – кампутары. Аб гэтых "жалезных сябрах чалавека" ён і піша. Зараз распрацоўвае тэматыкі, звязаныя з развіццём у Барысаве сеткі Internet.

ЛінаКівісцікава. Працуе з навінамі. Трымае сувязь з барысаўскімі тытанамі хіп-хопа і брэйк-дэнса. Пасля з'яўлення матэрыялу "Барысаўскае графіці", яна стала сапраўднай зоркай клуба.

Напрыканцы, самае цікавае. Клуб адчынены для ўсіх жадаючых. Калі журналістыка цікавіць вас ці вы збіраецеся набываць адпаведную адукацыю, мы прапануем вам даслаць нам свае матэрыялы на адрас газеты "Гоман Барысаўшчыны". Аўтары лепшых змогуць стаць сябрамі клуба ці нават журналістамі маладзёвай рэдакцыі "ГБ".

*С.Нялюбін.*









# Тутэйшы кнігазбор

Напрыканцы 2000 года ў выдавецтве "Ураджай" убачыла свет кніга – фотаальбом "Хрысціянскія храмы Беларусі на фотаздымках Яна Балзункевіча. Пачатак XX стагоддзя". У ёй прыведзены 165 здымкаў бажніц амаль стогадовай даўніны. Прыводзяцца кароткія гістарычныя звесткі аб іх.

Сярод прыведзеных фотакартак пяць прысвечаны Барысаўшчыне. На іх паказаны Барысаўскі касцёл, цэрквы ў Бродаўцы, Вяляцічах, Лошніцы і Мсціжы.



**Фота барысаўскага касцёла з кнігі "Хрысціянскія храмы Беларусі на фотаздымках Яна Балзункевіча"**

# Страчаныя гідранімы

Неад'емнай часткай гістарычнай спадчыны любога краю з'яўляецца тампаніміка і гідраніміка. Яны шмат што могуць распавесці пра мінуўшчыну яго жыхароў.

На Барысаўшчыне захавалася вельмі старая гідраніміка, якая змагла перажыць уздым, заняпад і асіміляцыю сваіх аўтараў. Тым не менш далёка не ўсе з тутэйшых назваў рэк дайшлі да нашага часу.

У шэрагу дакументаў канца XVI стагоддзя ўзгадваюцца на землях пана Яна Кураша рэкі Някроўля і Лабокая. Але дзе яны працякалі? З дакументаў 90-х гадоў XVI стагоддзя вынікае, што ў тыя часы маёнтак Яна Кураша знаходзіўся паабапал Бярэзіны, а сама сядзіба знаходзілася ў Крычына. Рэкі Някроўля і Лабокая працякалі праз сенажаці маёнтка. Праз іх жа таксама працякалі рэкі Айна (Гайна) і Бярэзіна. У сувязі з тымі ж сенажацямі не раз узгадваецца вёска Касцюкі. Жыхары гэтай вёскі таксама ўзгадваюцца ў сувязі з лоўляй рыбы ў рэках Гайна і Някроўля.

Такім чынам, можна выказаць меркаванне, што рэкі Някроўля і Лабокая з'яўляліся прытокамі Гайны або Бярэзіны і знаходзіліся недалёка ад упадзення першай у другую. Але якія назвы Някроўля і Лабокая носяць зараз? Ні ў адным з дакументаў пасля XVI стагоддзя іх назвы не сустракаюцца. Дакладна можна казаць, што не было на Барысаўшчыне рэк з такой назвай і ў XX стагоддзі. Можа яшчэ дзе ў народнай памяці захавалася штосьці, што можа праліць святло на гэтае пытанне? А можа гэтыя назвы ўжо бясследна страчаны і іх прыналежнасць застанецца таямніцай на ўвесь час.

*А.Барэвіч*

# Рыцар беларускага духу

*Алесь Пушкін з мястэчка Бобр з'яўляецца адной з найбольш неадназначных асобаў у сучасным беларускім мастацтве. Напярэдадні яго персанальнай выставы ў Барысаве з ім сустрэўся наш карэспандэнт.*

**- Спадар Алесь, скажыце, калі Вы ўпершыню ўзялі ў рукі пэндзаль?**

- Упершыню я ўзяў пэндзаль у рукі прыкладна ў шэсць гадоў. Потым была звычайная школа, з якой я паступіў у Беларускі мастацкі ліцэй. Мне было трынаццаць гадоў, і з гэтага часу я прафесійна займаюся мастацтвам.

**- Распавядзіце, калі ласка, пра сваю творчую каляіну да баброўскага перыяду?**



*Святая Благаверная княжна Сафія Слуцкая, 1998г. (зверху)*

- Пасля сканчэння ў 1983 годзе Рэспубліканскага каледжа мастацтваў я паступіў у Беларускі дзяржаўны тэатральна.- мастацкі інстытут. Пасля першага курса ў 1984 годзе я быў прызваны ў савецкую армію і служыў у Афганістане ў наземнай авіяцыі. Вярнуўшыся ў 1986 годзе з войска, аднавіўся ў інстытуце, скончыў яго ў 1990 годзе і паехаў на працу па размеркаванню ў Віцебск. Там я жыў і працаваў сем гадоў да 1997-га, пакуль не быў змушаны з'ехаць. Гэтыя гады ёсць гадамі станаўлення мяне як мастака. Я вельмі люблю Віцебск.

З 1992-га па 1996 год я ездзіў працаваць на рэстаўрацыю Магілёўскага катэдральнага касцёла. За гэты час я добра вывучыў стыль барока і шмат чаму навучыўся па сваёй непасрэднай прафесіі манументаліста. Магілёў – гэта другі для мяне родны горад пасля Віцебска, я там стаў прафесіяналам, зрабіў свае першыя сакральныя роспісы, выставы, у гэтым горадзе я сустрэў сваю будучую жонку.

У 1997 годзе я купіў дом у мястэчку Бобр, на радзіме, дзе нарадзіўся і дзе жывуць бацькі. Ажаніўся і абвянчаўся ў царкве, якую распісваў на працягу пяці гадоў. Так і жыву.

Асноўныя выставы: 1991 год – першая персанальная выстава ў Віцебску, потым персанальныя выставы ў Магілёве (зала СМ Беларусі), у Менску (Дом літаратара, 1992), у Гародні (1991, зачынена з-за цэнзуры), у Віцебску (1995, 1997), у Новалукомлі (2000, зачынена з-за цэнзуры). Браў удзел у выставах-фестывалях "Новае мастацтва Беларусі" у Познані (красавік 2000, галерэя "Arsenal") і ў Варшаве (ліпень 2000, "Zamek Ujazdowski"). Афармляў тэатральныя пастаноўкі ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Я.Коласа ў Віцебску: "Кароль Лір" У.Шэкспіра (1994), "Фрэкен Юлія" А.Стрынзберга (1997), "Крэслы" Э.Іянэску (1999). Афармляў паэтычныя зборнікі М.Лукшы "Ёсць" (1994, Беласток), Л.Сіманёнак "У люстэрку" (1997, Віцебск), барда А.Мельнікава.

З 1989 года пачаў ладзіць перфомансы, за якія мяне два разы судзілі.

**- У 1999 годзе Вы здзейснілі перад рэзідэнцыяй Лукашэнкі ў Менску грамадзянскі перфоманс. У чым палягала сутнасць той акцыі? Ці не шкадуеце аб тым, што здзейснілі?**

- Так, я вядомы за свае перфомансы і пераследы за іх, але, на жаль, творчых прац, якія стаяць па-за палітыкай - карцін, фрэсак, графікі - не ведаюць так шырока.

Аб сваіх вобразных акцыях - пратэстах "Гной для прэзідэнта" ці папярэдніх у 1989 годзе перфомансах, прысвечаных 81 угодкам БНР я не шкадую. Яны шчырыя і вобразна - асацыятыўныя, іх людзі разумеюць кожны па-свойму, але, падкрэсліваю, – яны былі мірныя, вобразныя і негвалтоўныя, яны абуджалі думку і прымушалі думаць людзей, чаму пратэстуе мастак. Вось чаму на Беларусі гэта было свежа, упершыню і нетрадыцыйна. Няхай сабе для мяне яны скончыліся пераследам.

**- Царква Св.Мікалая Цудатворцы ў Бабры слынная на ўсю Беларусь Вашымі роспісамі. Як іх можна ўбачыць?**

- Сёння ўсе гэтыя роспісы можна пабачыць, прыехаўшы ў суботу (да 16-00) і ў нядзелю (у 9-30) у мястэчка Бобр на літургію ў царкве.

**- У Вас вельмі гучнае, харызматычнае прозвішча – Пушкін. Як вы ставіцеся да яго?**

- На жаль, не падабаецца мне маё прозвішча, вельмі ўжо гучнае. Вось бы лепш якое сціплае беларускае. Але як Радзіму, маці і тату не выбіраюць, гэтак і прозвішча. Трэба з ім жыць. Дык ужо і не ганіць яго, а адпавядаць яму.

**- На зломе тысячагоддзяў беларускія рок-музыкі выдалі супольны музычны прадукт "Я нарадзіўся тут". Вам прапанавалі распрацаваць лагатып альбома. Як Вы ўспрынялі гэтую прапанову?**

- У лістападзе таго года да мяне ў Бобр прыехаў Алесь Суша, аўтар ідэі і прадзюсер праекта і папрасіў далучыцца да яго афармлення. Я ў меру сваіх сілаў зрабіў сціплы ўнёсак, каб гэты праект так выглядаў звонку, візуальна, як выглядае зараз. І я вельмі ганаруся, мне прыемна, што Алесь Суша запрасіў мяне папрацаваць разам, бо значнасць гэтага музычнага альбома цяжка пераацаніць.

**- Алесь, калі Барысаў урэшце дачакаецца выставы Вашых твораў?**

- Выстава ў Барысаве, магчыма, адбудзецца ў канцы студзеня – лютым 2001 года. Па падрабязнасці, калі ласка, тэлефануйце (8-01796) 4-22-64.

**- Дзякуй, шаноўны Алесь, за гутарку.**

*Гутарку вёў С.Салаш*







*Васількі, 1990г. (зверху)*

*Партрэт маці, 1998 (злева)*

*Аўтапартрэт, (справа)*

## *Наша часцёўня*

***Анатоль Казюка***

## Каханне

Вечар быў той марозны –
Ярка зоркі мігцелі!
Твае вочы сур'ёзна
На мяне паглядзелі.

І яны мне сказалі,
Што кахаюць бязмерна,
Хаця вусны маўчалі
Сарамліва – нязменна.

Твар, заліты луною,
Спрабаваў усміхацца...
Такой цуднай парою
Нельга не закахацца.

***1964г.***

## Бярэзінскія плёсы

Як часам жыццёвыя сцежкі
Павернуць да роднай красы,
Люблю прагуляцца я пешкі,
Паслухаць зямлі галасы

Аб тых надбярэзінскіх травах,
Аб гуле магутных дубоў,
Дзе век партызанская слава
Не згасне ў спевах дуброў.

Дзе ліпеньскай стомлены спёкай,
Наўсцяж заміраюць лугі,
Нібы са званіцы высокай
Глядзяцца ў раку берагі.

А ў вечары зорныя плёсы
Бягуць аж за бездань віроў,
Дзе бакены чырванню косай
Струменяць святло з ліхтароў.

А бераг, сагнуты каленам,
Густым вербалозам зарос.
І пахне прывяленым сенам
Яшчэ неразбіты пракос.

Ля старыц, зарослых стагамі,
Гарбаціцца лысы курган.
І ноччу не спіць пад нагамі
Зямной прыгажосці арган.

Навокал раздолле лунае,
Змяніўшы спякотлівасць дня.
Смяецца, звініць і спявае
Згубіўшая сон цішыня.

Ныраюць у бездань зарніцы
З нябеснай крутой вышыні.
І месяц да зорнай крыніцы
Імчыць на гарбатым кані...

Купаўся б я ў водах і росах,
Гудзеў бы з вятрамі, як чмель...
Мне так на бярэзінскіх плёсах
Карціць зачапіцца за мель.

***1997г.***

# Футбольны распродаж

*На барысаўскі стадыён прыйшла зіма. Для футбола зараз у нас не сезон. Футбалісты распушчаныя на кароткія зімовыя вакацыі. Аднак клубнае жыццё не спыняецца. На ўсю моц віруе яно і ў нашым барысаўскім БАТЭ. Анатоль Капскі разам з трэнерскім штабам надумалі чарговую ратацыю батэўскіх кадраў. І не дзіва, што пусканне свежай крыві пачалося менавіта цяпер, бо ў нас, беларусаў, на свята думаюць пра будзень, а ўзімку пра лета.*



*Ужо агучаныя прозвішчы футбалістаў БАТЭ, якія па розных прычынах у наступным сезоне будуць апранаць футболкі іншых камандаў. На трансфер, як у крамнай вітрыне, пастаўлены не толькі адсеяная летась моладзь, але і некалькі значных фігураў барысаўскай каманды. Аднак пачнем па чарзе і персанальна. Вось тыя, хто ўжо здаў жоўта-сінюю амуніцыю дырэктару клуба сп.Альшэўскаму і шукае альбо ўжо знайшоў сабе новую каманду:*

## Абаронцы

Алег Кароль. На жаль, не падышоў БАТЭ па ўсіх параметрах. Хаця гулец даволі дасведчаны, аднак сваёй манерай гульні і габарытамі моцна вылучаўся на фоне хуткасна-агрэсіўнага стылю барысаўскага клуба. Але часова ўзмацніць батэўскую абарону ён здолеў. На наступныя паўгады арандуецца ў вугорскую "Татабанью" (Д1 – першы дывізіён).

Андрэй Лодзіс. Малады футбаліст, які не здолеў за год заблішчэць і замацавацца ў камандзе Пунтуса, аднак, як і большасць моладзі, што прайшла праз БАТЭ, не пазбаўлены таленту. Мабыць таму, надта цікавіцца Андрэем пермскі "Амкар"(Расія, Д2).

Андрэй Батвінка і Ёнас Пятраўскас. Андрэй нічым не вызначыў сябе ў клубе, прынамсі, яго прозвішча не было на слыху. Што датычыць Ёнаса, дык той два гады запар упэўнена падпіраў асноўны склад, але так і не зайграў. Мо справа ў фарце? Абодва хлопцы пераходзяць у "Дарыду" з Менскага раёна (Д2).

## Паўабаронцы

Дзмітры Акуліч. Даволі вядомы і сталы футбаліст. Мог бы і надалей выступаць за БАТЭ, аднак яго праблема ў тым, што гульцы яго веку і таленту даўно ўжо за межамі Беларусі. Таму і адпускаюць Дзіму з Барысава. Хай крыху заробіць! Праўда, ён пакуль вагаецца, на якім суб'екце Расійскай Федэрацыі спыніць свой выбар, на дагестанскім "Анжы" (Махачкала, Д1) альбо татарскім "Нафтахіміку" (Ніжнекамск, Д2).

Аляксандар Ермаковіч. Барысаўскі Луіш Фігу, на гульні якога будавалася ўся камандная тактыка. Гэты светлагаловы рухавік БАТЭ ужо даўно заслужыў права прадстаўляць прыстойны еўрапейскі клуб, аднак сыходзіць толькі цяпер. Дзякуй яму вялікі за гэта! І вельмі добра, што яго футбольным талентам зацікавіліся не толькі такія расійскія клубы, як пермскі "Амкар"(Д2) ды раменскі "Сатурн"(Д1), а яшчэ і некалькі клубаў з Нямеччыны.

Юры Дарашкевіч. У тым годзе нечакана для ўсіх гэты забіўны форвард быў здадзены ў арэнду "Лунінцу". Невядома, што сталася сапраўднай прычынай яго высылкі, аднак за год нічога не змянілася, і Юры ізноў на сезон здаецца ў арэнду. Толькі ўжо жодзінскаму "Тарпеда"(Д2).

Віталь Шымко. Хуткасны форвард, які пасля таго як акрыяў ад складанай траўмы, быў арандаваны "Дарыдай" з Менскага раёна (Д2), дзе правядзе і наступны сезон.

## Нападнікі

Дзмітры Сіланцьеў і Сяргей Сергель. Амаль немагчыма было Дзмітрыю ў сезоне-2000 скласці канкурэнцыю асноўным нападнікам БАТЭ з прычыны сваёй маладосці. Таму і патрапіў ён на трансферны рынак, дарэчы, разам з вядомым футбалістам з прозвішчам Сергель, які ніяк не можа знайсці свой клуб, вандруючы па беларускіх гарадах. Іх працадаўцы пакуль не акрэсліліся.

Аляксей Дзёмін. Яшчэ адзін малады форвард з добрым патэнцыялам, які пакуль не можа прабіцца з-за спіны Віталя Кутузава, таму на час арандуецца ў жодзінскае "Тарпеда"(Д2).

## Рэкурты

А вось тыя рэкруты, якія прыйшлі на змену тым, хто сышоў і ўжо заключыў кантракт з БАТЭ:

Іван Срыбненка (18 гадоў, паўабаронца) – з фарм-клуба БАТЭ – мінскай РШВСМ-"Алімпіі" (Д3).

Уладзімір Таран (23 гады, нападнік) – падпісаў трохгадовы кантракт з БАТЭ, перайшоўшы з жодзінскага "Тарпеда"(Д2).

Сяргей Міронччык (25 гадоў, нападнік) – перацягнуты з асіповіцкага "Свіслач-Даху"(Д2) і падпісаў кантракт па сістэме "2 гады+1".

Аляксандр Фіранчук (18 гадоў, нападнік) – пайшоў на павышэнне з фарм-клуба БАТЭ – мінскай РШВСМ-"Алімпіі" (Д3).

Як бачым, ёсць футбалісты, якіх шкада губляць. Аднак трэба радавацца таму, што ў БАТЭ застаюцца і яшчэ цэлы год будуць гуляць Лісоўскі, Федаровіч, Кутузаў. Цяжка сказаць, якім пернікам Капскі здолеў утрымаць гэтых барысаўскіх зорак у камандзе, але галоўнае тое, што і ў наступным, адзінаццатым па ліку чэмпіянаце Беларусі, мы можам спадзявацца на чарговы камплект медалёў ад барысаўскага БАТЭ.

***А.Скатарэнка***

# Музычныя навіны

Тутэйшы гурт N.N. Street робіць новыя аранжыроўкі, плануе выступленні ў Барысаве.

***

"Грошы" 13 снежня выступілі ў Менскім клубе "Star – club", прынялі ўдзел у джаз – рокавым фестывалі.

***

"Кайфакеды" знайшлі сабе новага барабаншчыка, імя якога застаецца ў вялікай таямніцы.

***

"AHRИL" 13 снежня запісаў свой дыск "5000". У яго ўвайшло 17 песень.

***

"Break Fank Sure brotner Crew" занялі другое месца на фестывалі графіці, які быў прысвечаны барацьбе супраць СНІДу. Цяпер хлопцы займаюцца стварэннем свайго сайта.

***

"Разгром" запісаў тры новыя песні (Беларусь, Масква 850, лятаць). У гурт прыйшоў новы басіст Юрый Баранаў. Былы басіст В.Станкевіч будзе іграць на гітары.

# Ваеннае рамясло

Група WARCRAFT утварылася ў жніўні 1997 года. Састаў яе падабраўся даволі хутка. Назваў для групы напачатку было некалькі. Але выйшла так, што назва знайшлася як бы сама сабой. Проста Дзмітрый Баброў, гартаючы англа – рускі слоўнік, натрапіў на слова CRAFT (рамясло), прыбавіў да яго слова WAR (вайна). Паколькі словазлучэнне спадабалася, яго рашылі пакінуць у якасці назвы групы.

Накірунак музыкі, у якім іграе WARCRAFT, - Death – Metal. Імкненне іграць іменна такую музыку ўзнікла пад уплывам груп, якія выконвалі музыку такога ж стылю, у прыватнасці CANNibal CoRpse.

Тэксты і музыку песень піша гітарыст Дзмітрый Баброў. Усе яны пішуцца на англійскай мове і спяваецца ў іх пра розныя праявы вайны. Прычым цэнтральнае месца ў іх займае не апісанне баявых дзеянняў, а псіхалогія чалавека ў такіх сітуацыях.

Свайго альбома ў групы пакуль што няма, але перспектывы на яго выпуск ёсць. Магчыма, ён выйдзе ў свет пасля Новага года, калі не з'явяцца дадатковыя праблемы.

Хаця група не рэпеціруе са жніўня гэтага года, на канцэртах заўсёды мае поспех. За апошнія два месяцы іх канцэры прайшлі ў Жодзіна, Менску і Салігорску.

Ёсць намер выступіць у Жодзіне і ў сярэдзіне студзеня 2001 года. Група хутка адновіць рэпетыцыі на шклазаводзе. Таму ёсць падставы лічыць, што якасць выступаў групы палепшыцца.

На сёння ў склад групы WARCRAFT уваходзяць наступныя выканаўцы:

Аляксей Снура – вакал,

Вадзім Калацей – гітара,

Мікіта Шахаміцкі – бас – гітара,

Дзмітрый Баброў – гітара, тэксты,

Аляксандр Мартынюк – барабаны.

У Новым годзе хацелася б пажадаць групе пабольш выступленняў, запісаць альбом. Удачы вам, хлопцы!

***Т.Карнацкая***

# Вясёлая "ночка" ад гурта "Грошы"

24 снежня ў Гарадскім палацы культуры прайшла прэзентацыя новага альбома найбольш вядомага барысаўскага гурта "Грошы".

Напачатку хацелася б узгадаць, хто такія "Грошы". "Грошы" – гэта: Жалязноў Ігар (вакал), Бадзюк Руслан (бас - гітара), Маркаў Павел (сола, рытм - гітара), Ручэнкін Дзяніс (гітара), Гарбачоў Сяргей (барабаны). Годам заснавання гурта ўдзельнікі лічаць 1998 г. На пытанне, якому стылю належыць "грашовая" музыка, удзельнікі гурта кажуць, што кожны знаходзіць у іх гучанні штосьці сваё: хто больш заўважае блюз, хто знаходзіць больш агульнага з рокам. Варта заўважыць, што ніводзін музыка з "Грошай" не мае музычнай адукацыі, чаго ніколі не падумаеш, пачуўшы іх саунд.

Альбом "Ночка" - гэта першы запіс, зроблены на прафесіянальным узроўні. Адметнай рысай гэтай работы з'ўляецца тое, што ўсё сыграна ўжывую, без усялякіх метраномаў і г.д. Хлапцы працавалі над "Ночкай" больш года: дапрацоўвалі старыя, пісалі новыя песні. Запіс альбома доўжыўся амаль тры месяцы ў міні – студыі Rolland RX 880. Выхад "Ночкі" "Грошы" хацелі зрабіць менавіта да Новага года, каб нейкім чынам падвесці вынік сваёй дзейнасці "за тысячагоддзе"ды і проста зрабіць прыемны падарунак барысаўцам. Асабліва адметныя песні альбома – "Мама" і "Ночка", якія развясёлая публіка запатрабавала выканаць на біс.

Наогул, у зале стварылася такая атмасфера, што прэзентацыя проста нагадвала сустрэчу добрых старых сяброў. Пад час перапынкаў паміж песнямі музыкі дзяліліся ўражаннямі з публікай, адпускалі розныя жарцікі.

На вялікі жаль, спевы "Грошай" у Барысаве даводзіцца чуць даволі рэдка, хіба толькі на нейкіх акцыях, ды і то, трэба зазначыць, што нават такія выступленні праводзяцца поўнасцю, як правіла, па ўласнай ініцыятыве гурта. Шкада, што нашы гарадскія ўлады яшчэ пакуль не маюць часу, магчымасці ды і, напэўна, жадання арганізоўваць розныя мерапрыемствы для моладзі, акрамя дыскатэк, якія не патрабуюць ніякіх асаблівых намаганняў. Але ўсё - такі ёсць спадзяванне, што Барысаў яшчэ заявіць пра сябе як горад таленавітай у музычным плане моладзі. Пакуль ёсць вось такія "Грошы", якія гатовы іграць бясплатна, часам нават ва ўбытак сабе, каб нейкім чынам, як бы пафасна не гучала, але ўсё ж спрабуюць выцягнуць моладзь з брудных пад'ездаў і ад не лепшай музыкі.

Але не хацелася б закончыць расповед на нейкай сумнаватай ноце, таму на заканчэнне невялічкія пажаданні ад "Грошай" - І.Жалязноў: "Чаго пажадаць? Добрага настрою, аптымізму. Мы любім Барысаў і ніколі не будзем яго забываць. І пры першай магчымасці плануем праводзіць канцэрты ў нашым родным горадзе бясплатна". Руслан Бадзюк (басіст гурта) удакладняе: "Калі не бясплатна, то хаця б за грашы". А барабаншчык Сяргей Гарбачоў аказаўся самым лаканічным, пажадаўшы барысаўцам "Няхай жывуць".

***В.Ліс***

# Парады ад Наталлі

Паважаныя гаспадыні, калі ў вас не вельмі добра захоўваюцца карняплоды, вырашчаныя на вашым агародзе, я прапаную вам некалькі старых рэцэптаў іх захавання.

## Морква салёная

У морквы адразаюць вярхушку, старанна мыюць, кладуць у бочку (вядро, банку), зверху закрываюць тоўстай тканінай, кладуць кружок, груз і заліваюць расолам (400-500 г. солі на вядро вады). Гэты рэцэпт падыходзіць у тых выпадках, калі па - іншаму моркву захаваць ад псавання немагчыма. Салёную моркву выкарыстоўваюць у прыгатаванні супоў, рагу з гародніны і інш.

## Кансерваваная морква

Моркву наразаюць на кавалкі, бланшыруюць у кіпені 3-5 хвілін, астужаюць, абдіраюць і кладуць у банкі. У банкі наліваюць расол (200 г. солі на вядро вады), стэрэлізуюць у кіпені 60 хвілін, затым закатваюць і ахалоджваюць.

## Буракі квашаныя

У такім выглядзе буракі вельмі добра выкарыстоўваць пры прыгатаванні баршчу. Прычым выкарыстоўваюць не толькі буракі, а і расол.

Для квашання бяруць крэпкія, здаровыя бурачкі. Разбіраюць іх па размерах, адразаюць галоўкі і хвосцікі, абіраюць скуру. Пасля гэтага мыюць, кладуць у тару (бочку, вядро, банку), накрываюць тоўстай тканінай, кладуць кружок і гнёт і заліваюць расолам (300 г. солі на вядро вады). Расол павінен выступаць над кружком на 10-15 сантыметраў. Квасяцца буракі пры тэмпературы 20 градусаў цяпла. Перыядычна трэба мыць кружок, збіраць з яго плесень, пену. На 15-ы дзень карняплоды святлеюць, расол набывае цёмна-карычневы колер, буракі гатовы да ўжывання. Захоўваць квашаныя буракі неабходна ў халодным месцы.

## Другі рэцэпт квашання

На 10 кг буракоў, апрацаваных, як сказана вышэй, бяруць 100 г. аржаной мукі, палову чайнай лыжкі тміну, 8 л вады. Карняплоды загружаюць у кадушку (вядро), перасыпаюць тмінам, заліваюць халоднай вадой. Затым у цёплай вадзе разводзяць муку і ўліваюць у кадушку. Пасля чаго кладуць тканіну, кружок, груз і вытрымліваюць пры пакаёвай тэмпературы 2 тыдні

## Сухі часнок

Галоўку часныку раздзяляюць на долькі, абіраюць ад абалонкі, кладуць на бляху і сушаць у духоўцы пры тэмпературы 60 градусаў. Высушаны часнок лепей за ўсё захоўваць у чыстай, сухой банцы, якая шчыльна зачыняецца.

## Жур па - сялянску (старая беларуская страва)

Першым гэтае блюда можна назваць толькі ўмоўна: гэта даволі спецыфічнае блюда. Яно можа быць посным, малочным, мясным. Але аснова любога журу - вадкі падкіслены раствор аўсянай мукі. Падаюць жур толькі гарачым і, як звычай, з адваранай бульбай.

Для журу аўсяную муку, альбо змолатыя ў кавамлынку шматкі "Геркулес" разводзяць цёплай кіпячонай вадой і пакідаюць нанач (гадзін на 12 -14) у цёплым месцы, а затым працэджваюць праз сіта.

Гатуецца жур так: на 1 літр раствору мукі патрабуецца 2 л вады, 0,5 кг мяса (грудзінка з дадаткам вяндліны альбо каўбасы), 3 морквы, 2 цыбуліны, 6 зубкоў часныку, корань пятрушкі, соль па густу.

Для прыгатавання раствору мукі бярэм 200 г. аўсянай мукі і 1 л вады.

Зварым бульён з грудзінкі і вяндліны. Пакладзем у яго цыбулю, моркву і корань пятрушкі. Калі агародніна зварыцца, працэдзім бульён і давядзем яго да кіпення. Памешваючы, дадаем да яго раствор мукі, солім і зноў даводзім да кіпення. Запраўляем жур пацёртым часныком, сушанай зелянінай. Зваранае мяса наразаем маленькімі кавалкамі і кладзем у жур.

Асобна да журу падаем звараную бульбу, палітую алеем.

